Грамадскае аб’яднанне
«Воля да развіцця» г. Слонім

# І ДОЎЖЫЦЦА НОЧ...

*Мікола Кананові́ч*

**Вершы**

Мінск
«Беларускі кнігазбор»
2003

УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беи)
К 19

**Кананові М.**

К 19 І доўжыцца ноч...: Вершы / Мікола Кананові. Мн.: «Беларускі кнігазбор», 2003. – 120 с.
ISBN 985-6730-23-6.

«І доўжыцца ноч...» — першая кніга паэта са Слонімшчыны Міколы Кананові. Пад адной вокладкай сабраны вершы розных гадоў.

Кніга выдадзена ў рамках праекта, які быў рэалізаваны ў 2003 годзе грамадскім аб'яднаннем «Воля да развіцця» згодна з Праграмай ТАСІС «Развіццё грамадзянскай супольнасці» для Беларусі. Праграма ТАСІС фінансуецца Еўрапейскім Саюзам.

УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беи)

**ISBN 985-6730-23-6**

## Гравітацыя

Бяссоннай ноччу цягнікі
Журбу маю па незваротным
Жыцці, як ссохлыя лісты,
Нясуць не мілым і не родным —
Нясуць у невядомы край,
У недасяжны мройны вырай,
Дзе не бывае змрочных зграй
Людзей са звычкаю ваўчынай…
Мая журба аб светлых днях,
Ружовых колерах дзяцінства —
Самотны, адзінокі птах,
Якому вырай толькі сніцца.
Бо гравітацыя зямлі
Змяшала колеры і гукі,
І не заўважаць цягнікі
Мае працягнутыя рукі.

## На балоце

Елкі растуць тут і сосны нямоглыя.
Іржавай вады з балота глынуць,
Выкруцяць голле, нібы спіны голыя,
Рыпяць і вусцішна на ветры сапуць.

У познюю восень гадзінаю шарай
Змрочны лясун загукае мяне.
Прыйду я на кліч з патаемнаю марай
Утапіць сваю жудасць у бурай вадзе…

Разарве сабе грудзі лясун дзікім рогатам,
Разгадаўшы мой страшны, вар’яцкі намер.
Рэха ад рогату ўляжыцца покатам,
А мой крык абарве вершаваны памер.

## Шасцідзесятнік

Не было каранёў глыбокіх,
Не было і сваёй зямлі.
Як збавенне быў край далёкі,
Даведку куды далі.
З таго дня твой распад пачаўся.
Не сцярог і пашпарт пасля.
Паўвека ты пазмагаўся,
Каб наетай стала зямля,
Накормленай да ванітаў
І разбэшчанаю ушчэнт,
Каб расло на касцях тут жыта,
І на клін не сышоўся свет.
Пакаленне шасцідзесятых,
Нараджэння саракавых,
Угнаеннем сямідзесятых
Называюць цяпер услых...
Дыялектыка не абсурду,
Дыялектыка — нежыцця...
Унук возьме у банку ссуду,
Каб помнік паставіць пасля.

## Гісторыя Беларусі

Атожылкі знявечанае веры,
Як павуцінкі вераснёўскіх дзён,
Лунаюць, разарваныя, ў паветры,
Сабе тым самым вызначыўшы скон.

Тады ж цвіце асенняя чаромха,
Ґуллівым сонцам ўведзеная ў зман.
Ізноў с пачатку пішацца… бясконца
Гісторыі пакрэмзаны раман.

* * *

*Вітаўту Чаропку*

Ліцвіны… Беларусы… Бедакі…
Русілі іх, хрысцілі і палячылі.
Праз кроў і пот за чорныя вякі
Імя нам нават ворагі зыначылі.

І «хто ты ёсць?» — пытанне паўстае
Сягоння здзекам у вачах дасведчаных,
Бо зараз тут жывучай галыцьбе
Імя — рабоў, бяспамяцтвам знявечаных.

І статак наш, а з ім і пастухі
Збяднелі так, схуднелі й змізэрнелі,
Што ўжо ўсё роўна ў які бок ісці,
А хлябы* зводзіць і вурчыць у чэраве.

Было такое колькі ўжо гадоў! —
Гісторыі крывая недзе выведзе
Забытых Богам ціхіх бедакоў,
Яшчэ жывых зямлёй сваёй на прывязі.

---

* Хлябы — бакі (*дыялект.*).

## На Гедымінавай гары

Тут княжы род замацаваў пачатак,
Каб шырыць межы з гэтае мяжы…
На Гедымінавай гары распятай
Цябе я бачу, быццам на крыжы.

Тут вольны дух напоўніў нашы душы,
Імгненне шчасця затрымаў на міг.
І ты сама заўважыла так слушна,
Каб нам сюды вярнуцца удваіх.

Суцішся, мілая, і цішыню паслухай —
Якая вечнасць у яе вачах!
Турботы нашы, боль нямы і скрухі
Нібы застылі ў гэтых камянях…

Хай будзе так. І прыйдуць нашы дзеці
Сюды калісь, дзе княжыў горды князь,
Каб зразумець, што лепш няма на свеце
Вось гэтае зямлі, нам роднай у вяках.

## Гістарычны раман

Цікае гадзіннік сонным калаўротам,
Лік вядзе нялічаным дробязным згрызотам.
Сон выратавальны не адчыніць дзверы,
Заблудзіўся дзесьці у сутонні шэрым.
Незаўважна вечар кане ў лона ночы,
Толькі не запаліць свечку смех дзявочы.
Ноччу будзе пустка ў змушаным цяжары,
Цыгарэтны голад, кавы смак гаркавы
І раман аб войнах, старажытных сечах,
Аб Вялікім княстве, Паспалітай Рэчы.
Толькі ўсё мінула, і цікавіць мала
Чытача рамана князева забава.
Бойкі і каханні, здрады і праклёны,
А цяпер — плюс турмы, лагеры і зоны.
Дзікуны ў дзікунстве — і нябачна выйсця,
Сто разоў памры хоць — столькі ж нарадзіся…
І казаў князь: «Буду жыць у сыне!»
А сыны зракліся роднае Айчыны.
Сіратой спрадвеку з торбачкай жабрачай
Людзі разам дзеляць з ёю лёс бядачы.
На скрыжалях тлумных Захаду і Ўсходу
Толькі й засталася назва ад народа…
А якія думкі песцілі калісьці
Лепшыя ад лепшых і шукалі выйсця,
І шукаюць зараз, і ідуць да страты,
А Радзіму пляжыць «ўсенароднаўзняты».
Не збярэцца Веча, а Савет Вярхоўны
У свой час застаўся добры й памяркоўны.

І народ галее праз такую міласць —
Уздасца на тым свеце за святую сціпласць…
Цікае гадзіннік над закрытай кнігай.
У акне світанне — на якое ліха?

## Стома

Палю апошнюю цыгарэту —
Скончыўся ліміт запалак.
Прыкра ведаць ісціну гэту,
Калі гэтак марудзіць ранак.

Я сёння спяшаўся вельмі.
Пра сябе забыўся падумаць.
Губляюць моц мае нервы —
Жартаў з сабой не любяць.

Неўладкаванасць быту,
Злосць, непаразуменне!..
Усе мы людзі нібыта…
Ці ж памятаем пра гэта?

Толькі зараз, пайшоўшы з дому
Цёмнай ноччу і без запалак,
Брыдка й цяжка трываць мне стому,
Не здымае якую ранак.

## Выйсце

> Выйсце ёсць з тупікоў, але выйсця няма з лабірынтаў, дзе адны тупікі…
>
> *Алесь Асташонак*

Выйсця няма ў лабірынтах,
Дзе адны тупікі…
У жытах, ячмянях, у пшаніцах —
Солі роднай зямлі —
Сэнс спасцігаюць мільёны
І ў спадчыну дзецям, як скарб,
Пакідаюць сеяць загоны,
Каб дух не ачах.

## Пажаданне

*Маім пляменнікам*

Дабрыня, схаваная пад злосцю,
Альбо злосць у сховах дабрыні —
Гэта стан тутэйшага кагосьці,
Каго жыццё дало мне ў сваякі.
У наш род сялянскае закваскі
Падмяшалі пернікаў з вінам.
І з такой, відаць, не Божай ласкі,
Цягне з хаты выпіць свет нагбом.
Хай у ім разлітая атрута,
Хай у ім нястача і бяда,
Хай душа да роднага прыкута,
Але шлях — ад роднага гнязда.
І з усіх Адамаў майго роду
Толькі бацька кінуў зерне тут,
І яно дало свае ўсходы —
Ў бацькі ўнукі родныя растуць.
Ні Расіі Поўнач, ні Ўкраіна
Іх ужо не зманяць да сябе.
Дай хоць ім, Бог, вольную краіну
За бацькоў, дзядоў і за мяне.
Каб дабрыню за злосцю не хавалі,
Каб наогул злога не было,
Як таго, што мы яшчэ засталі,
Што бацькаў род па свеце размяло.

## Выбар

*На могілках маёй вёскі на працягу некалькіх гадоў адбываліся акты вандалізму. Невядомыя руйнавалі з зямлёй магілу аднаго з арганізатараў мясцовага калгаса.*

1

Успыхнуў і згас яшчэ адзін дзень.
На маім раздарожжы туман і слата,
Ці сонца апоўдні адкідвае цень
На шлях, які я не прайшоў да канца.

Быць падарожным, дзе глухамань,
Дзе бессэнсоўнасць сыходзіць за сэнс,
Дзе цэдзіць смурод застаялая твань, —
Забыцца, як пахне восеньскі лес.

У гэтакі шлях мяне кліча жыццё,
Роднасць таго, чым народжаны быў?
Я ўжо не веру, што Слова было —
Спачатку быў хаос д'яблавых сіл.

Вечны пачатак зла і дабра,
Гармоніі й хаосу — повязь жыцця.
Растала, як дым, залатая пара —
Час адчування з прыродай зліцця.

З далёкай калыскі дзяцінства свайго
Ідзе чалавецтва да болю і слёз.
У жорнах гісторыі зло і дабро
Мяшаюцца разам, як жыта й авёс.

Дык навошта ваш вопыт, сівыя вякі,
Каб новую кроў мы пускалі за кроў?
І ў каламуці жыццёвай ракі
Шчанюкамі сляпымі тапіліся зноў?

2

Я выракаюся жыць змагаром.
Не тлусты кавалак — сэнс для мяне!
Але ж і вечным хадзіць жабраком
Ні сіл, ні жадання больш не стае.

Значыць, ізноў будуць слёзы і кроў,
Страціць значэнне слова «дабро»?
«Рэж камуністаў, вешай жыдоў!
Далоў учарашніх правадыроў!»?

Так нараджаецца бог-правадыр.
Забыта Галгофа, забыты Хрыстос.
Мы выбіраем крыж для магіл
Бліжніх сваіх, — каб і дух не ўваскрос.

3

Мінаюць, сціраюцца з памяці дні,
Складаючы сэнс раздарожжа майго.

Ці падкажа сумленне, выбар які
Зрабіць, каб у крэда абрасці яго?

Няма разумення, куды вядзе рок
Здзяйсненняў, падзей, ідавочнай хлусні.
А жыццё, як нямоглы старэнькі дзядок,
Кожным крокам сваім набліжае клады.

Як свой дом збудаваць, як свой сад пасадзіць,
Каб гадзінаю шарай апошняга дня
Не баяцца грахоў, што й зямля замаліць
Не змагла б, — хоць усіх прымірае зямля?

## Кут

Пайшла ты засмучонай
Зноў з гэтага кута,
Дзе нават дух вясновы
Нам не прынёс цяпла.
Дзе дым маёй цыгаркі
Уецца матыльком
Над лёсам Аліндаркі,
Зачараваным злом.
Цябе я не ўтрымаю,
Не прывяду у дом —
Я хаты тут не маю,
Я п’ю ў куце нагбом
Наканаванаць ісцін
Жабрачага жыцця
З надзеяй на «калісьці»,
Бо Аліндарка — я.

І пойдзеш ты аднойчы,
Каб не вярнуцца зноў.
І з той апошняй ночы
Мне стане кроў — віном.
Віном я буду грэцца,
Як у апошні раз,
Пакуль рыхтуе месца
Навечна лёс для нас.

## Анатацыя кахання

Струны маёй душы
Голас кране далёкі.
Я на кахання крыжы
Прашу для сябе палёгкі!

Згублены без цябе
Час, як пясок праз пальцы,
Бязладным жыццём цячэ
Туды, дзе мне не застацца.

Прыходзіць у свет вясна
Раўчуком маладым ля хаты.
Пакута расце мая,
І ёю мне быць распятым.

Даравання прашу. І крыж
Я скінуць хачу кахання.
Недасяжная, ты маўчыш!
Твой выбар адзін — расстанне!

І пакінула... Голас твой,
Твае вочы бяссонай ноччу,
Як агонь, я нашу з сабой,
Хоць да іншай жанчыны збочыў.

Толькі з іншымі — я адзін!
То — жабрачая выпадковасць!
Ім таксама сэрцы спаліў
Развітальны далёкі голас.

* * *

*Л.*

Ты прыходзіш, як восеньскі дождж.
Да душы распранаешся ў цёплым пакоі.
І ў які ўжо раз я кажу: «Ну і што ж,
І табе гэта здасца калісьці даволі!..»

Засмучона маўчу. Мне маўчанне
найболей да твару.
Я маўчаннем плачу за агульную нашу
ахвяру —
Лабірынтаў чужых чужаніца, якога кахаюць.
Мне б каханнем напіцца, ды толькі
грахі не пускаюць.
І выйсця няма, як у нашым рамане працягу.
Лабірынтаў турма сілом мне зацягвае дзягу.
Звужаецца свет, і святло яго тухне паволі,
Як лямпа з прыходам тваім
пад бялюткаю столлю.

Ты прыходзіш, як восеньскі дождж.
Да душы распранаешся ў цёплым пакоі.
І ў які ўжо раз я кажу: «Ну і што ж,
І табе гэта здасца калісьці даволі!»

* * *

*Л.*

Чакаю цябе штодзённа.
Чакаю цябе штоночна.
Надзея жыве ў чаканні,
І чакаць так да скону можна.

Плача зямля адлігай.
Далёка яшчэ да сонца,
Калі растопяцца крыгі
Ад Бога цяплом бясконцым.

Так бывае заўсёды —
Поруч цяпло і холад.
Вечны закон прыроды,
Як спатоля і голад.

Прырода ж майго чакання
Сугучна твайму прыходу…
Ад сустрэчы да развітання
Даў нам Бог зацугляць прыроду.

* * *

Я вып'ю твае пачуцці —
Табе не будзе балюча!
Каханне маё астудзіць
Скатаваныя лёсам грудзі.
Увага мая падыме
Твой позірк, паніклы долу.
Трывога вылеціць з дымам
У комін нашага дома.
Ты хату вясной абсадзіш
Газонам любімых кветак,
Не помнячы пра разладдзе,
Як кумачовы ветах…
Ды я аднаго баюся:
Выпіўшы раптам столькі,
Пад ногі твае звалюся,
Як позняй рабіны гронка.

## Анатацыя граху

Ці д’ябал, ці Бог, ці жыццёвы закон,
Калі пустаты не прымае душа,
Уводзіць у грэх, падрыхтоўвае скон
Ціхуткай слязінцы твайго пачуцця.

І ноч перакрэсліць наш прывідны час,
Не дасць уваскрэснуць нам з новай вясной,
І кола самоты замкнецца для нас,
І памяць не верне суладдзя з сабой.

Яшчэ застануцца жыцця ланцугі
(Цяжар іх прыглушыць пакутніцкі боль),
А з імі — жаданне апошняй мяжы
І прысмак крыві, не пралітай на ёй.

## Чужаніца

Калі з раніцы снег, а пад вечар — вада,
Неспакойнай зімой аб пустэчу сваю
Будзеш біцца да болю — не зрушыш ільду,
Не запоўніш пустэчу, хоць прыйдзе вясна.

Але ведаць не хочаш адмераны час,
І здаюцца братамі-блізнятамі дні.
Не замерзнуць табе, не гарэць на агні,
А пустэчу свянціць на жыццёвы свой Спас.

Замыкаецца дзён тваіх кола ў гады,
А гады замаруджваюць сэрца біццё.
Як згарэлы гарэх, ты дарэшты пусты,
І даўно пра сябе ты сказаў: «Вось і ўсё».

* * *

На арэлях удвух днём будзённым і хмурым…
Хто ўключыў і за што атрымоўвае грошы?
Ці за тое, што мы горкі лёс не абдурым,
Ці проста арэльшчык з пахмелля харошы?

«Атракцыёны» — святочная шыльда.
«Чортава кола», старыя арэлі.
Хітрая кошка з вачамі Мацільды,
У нашым мультфільме мы звар'яцелі!

Куды пойдзем потым?.. Якія там справы!
Колькі часу яшчэ міне, не ўваскрэсне,
Покуль стомішся ты ад дурной сваёй славы,
І цярпенне маё на аскепкі не трэсне.

* * *

Восень — абсурдны пачатак жыцця,
Калі мецъ на ўвазе бяссмерце ў сусвеце.
І тым прыцягальная, мабыць, яна.
І тым паўтараецца ў кожным паэце.

Кола замкнецца. І спаляць лісцё.
Попел развеецца ветрам па свеце.
Таму новай формы прагне маё
Непаўторна адзінае Я на планеце.

* * *

Макрэча ў душы, макрэча,
І горад каторы дзень
Пад парасонамі крэхча
Змрочных, як хмары, людзей.
Куды ад іх змроку падзецца,
Калі такі ж цёмны сам? —
Жыццё у ступе таўчэцца
Асабіста-грамадскіх драм.
І каваль — нават не падмайстра,
Каб вартае штосьць скаваць.
І толькі «светлае заўтра»
Дае сілы яшчэ трываць
Гэту непагадзь чалавекаў
І макрэчу ў сваёй душы…
Для пародый каб нізку вершаў
На мокрай знайсці шашы.

* * *

Холад запраграмаваны —
Эканомія сродкаў на бедных.
Раб абрабаваны —
Лісток на восеньскім ветры.
А гаспадар — не дрэва,
Не адродзіць яго увесну.
У лужы — адбітак неба,
У ім — нікому не цесна.

## У парку

Вецер калыша дрэвы у парку,
Віхрамі з-пад лавак лісцё вымятае
І нават шпурляе прахожым за каркі —
Вецер гуляе.

На парыжэлай траве жухнуць кветкі.
Іх кінулі тут пазаўчора ці ўчора,
І вецер не змог іх вырваць з сурвэткі —
Прымёрзлі ад гора.

Пуста ў парку. З-пад дрэваў, з-пад нізу,
Холадам цягне… Няўтульна. Маркотна.
Зноў апранае чорную рызу
Восень — камусьці ужо незваротна.

* * *

Халодны дождж. А пад нагамі
Пажоўкла-бруднае лісцё.
Адсутнасць шчасця паміж намі.
Адсутнасць грошай на жыццё.
Жаданне знікнуць ці схавацца,
Лісты і вершы разарваць.
Жаданне зноў не нараджацца,
Каб кожны дзень не паміраць.
Адсутнасць веры ў паляпшэнне
Таго, што не назваць жыццём.
Цяжар штодзённага глумлення
Над тым, чым быццам бы жывём…
Усюды восень — сімвал страты —
Імкліва гоніць нашы дні.
Куды?.. У вечныя салдаты
З сабой развязанай вайны.

## Беларуская восень

Ахутала горад залева.
Асенні халодны дождж
Справа і злева,
На захад, на ўсход.

У дамах-мураванках, у хатах драўляных
Мерзне ў глыбінцы нямога душа.
Холад — а як жа! Неўладкаваных
У свеце ніколі не грэла імжа.

Кватэры настылі. Цяпло эканомяць.
Грошай бракуе — іх вечна няма.
Цяжка народу, співаецца моладзь,
Хлусяць улады з відна да цямна.

Шэрая восень, змрочная восень
Палохае рана — яшчэ ж не зіма.
Ды неба пакінулі сонца і просінь
Волі, надзеі, цяпла…

* * *

Згарае ў сажу светлы дзень,
І заўтра новае прыходзіць,
А ноччу чорная глухмень
І грэх душою верхаводзяць.

Жыву ні ноччу і ні днём,
Але выходжу спавядацца
Асеннім ледзяным дажджом
З жаданнем кволым — не вяртацца…

## Зімовая мроя

Мне не хочацца хлусіць табе.
Мне цябе у святле снежным дня
Не ўбачыць ніколі, нідзе,
Дзе нага не ступала твая.

У закінутых снежных палях
Белы снежань вартуе мой дом,
А твой дом на далёкіх шляхах
Мне прымроіўся казачным сном.

Я не ведаю, дзе ты жывеш.
У сапраўднасці пэўнасці — нуль.
І каб зместам напоўніўся верш,
Праз зіму не дайсці мне датуль.

* * *

Бязгучча легла белае на гоні і лясы.
Марозная імперыя падпальвае снягі.
Поўня паўнашчокая засціла зорак рой
Ва ўладзе сваёй жорсткаю, халоднаю рукой.

Узыйдзе сонца раніцай над роўняддзю снягоў,
Сцюдзёнае і зыркае свяціла маразоў.
Трашчаць платы, амшэлыя у белае рыззё,
На дрэвах візантыйскае узорнае галлё.

Маўкліва-урачыстыя зіхцяцца вокны хат.
Шыбы іх квяцістыя страчаюць твой пагляд,
Ласкава запрашаючы у хату да цяпла,
Дзе, каляндар гартаючы, здарожыцца зіма.

## Грамніцы

Тэмпература ніжэй нуля,
І шчодрае сонца — проста надзіва!
Стрэчанне сёння: з вясною зіма,
Сонца з марозам гамоняць шчасліва.

Сонечны, ясны грамнічны дзень.
З даха пад сонцам падаюць кроплі,
А праз фіранкі на покуць прамень
Яскрава капеж адлюстроўвае звонкі.

Так многа цяпла будзе гэтай вясной!
Хочацца верыць добрым прыкметам.
Вясной чалавек маладзее душой
З новай надзеяй на плённае лета.

## Зімовая дарога

Зімовы час застыў ў заснежанай раўніне.
Ад бляску ліхтароў іскрыцца іней сіні,
А ў поцемку, далей, знямелым сілуэтам
Павіс над хатай клён, знаёмы ўсіх паэтаў.
Падэшвамі мароз парыпвае ў знямозе,
Рассыпаны сум скрозь: на дрэвах, на дарозе.
Бязлюддзем ночы крок паспешліва-дрыготкі
Хадою коле ў бок, і стынуць туфлі-лодкі.
Старое паліто згубіла верхні гузік.
На галаве даўно заціх сабака Тузік.
Мінуўся час лінаць каторую ўжо зіму,
А ў галаве адно — святыя херувімы!
Падраны ўшчэнт кішэнь
скамечаным «чырвонцам»
Аздобіць заўтра дзень, пагладзіць па галоўцы.
А зараз цягне клён, святло у вокнах хаты.
Такі знаёмы сон, і стол — такі багаты.

## Рэінкарнацыя

Мяцеліца, пасля — капеж.
Змяшаліся стыхіі разам:
Зіма, што бель трасе наўсцеж,
З вясной плакучаю тым часам.

Пануе смутак у цішы,
Змяніўшы скавытанне ветру,
На сонцы плачуць ледзяшы,
Слязамі падаюць на зямлю.

Са стрэх знікае белы снег,
Нябачна воку, ды няўхільна
У брудных лужынаў прарэх
Вадою точыцца стэрыльнай,

Дзе колы й ногі разнясуць,
Змяшаюць разам несуладдзе,
Каб фарбу белую вярнуць
Вясной на яблыню у садзе.

## Вар’яцтва

Душа на дзве паловы рвецца:
Жыве вар’яцтва жах у ёй.
І д’ябал здзекліва смяецца
За трызнай д’ябальскай сваёй.

Сярод людзей я стаў пустэчай.
Яны цураюцца мяне,
Яны іначай чуюць рэчы,
І д’ябал іх не закране.

Правалы воч яны не бачаць —
Жывуць вар’яцтвам не сваім…
А родныя пры мне не плачуць,
Яшчэ ўсё лічачы жывым.

## Ісціна

Няпэўны час. Няпэўнае надвор’е.
Толькі пэўна ісціна адна —
Яго няма. Хаўтурнае застолле.
Жалобы чарка выпіта да дна.
Расходзяцца старыя, маладыя.
«Ён мог бы жыць», — гавораць між сабой.
Вочы ўдавы і словы ледзяныя —
Усё нішто для ісціны такой.

## Першыя ружы

Кроў і ружы ў вершах не адмываюцца.
*Анатоль СЫС*

Белае змяркане дня.
Чорнае нашэсце ночы.
Водарам чароўнага імя
Сон перарываецца дзявочы.
Мроіцца каханкай быць,
Ружай, што красуецца да часу.
За акном вясенні дождж шуміць,
Налівае поўна жарсці чашу…
Белае змярканне дня
Зменіцца чароўнай ноччу,
Каб такое мілае імя
Болем ружы стала крываточыць.

## Паэт

Табе не хапае слоў —
Дзеяслоў ты бярэш для рыфмы.
Як рэчка вясной з берагоў,
З пачуццяў выходзіш прыкрых.

Табе не хапае цяпла —
Сорак градусаў для сугрэву!
І паліш сябе датла,
Каб толькі не страціць веру.

Табе не хапае сіл,
Упэўненасці і грошай —
На могілках, ля магіл
Тады недарэмна ходзіш.

Сваё прозвішча на крыжы
Можа, з сотню разоў чытаеш.
Часцінкай чыёй душы
У той час сябе адчуваеш?

Гэта — твой талісман!
Калі жывых не хапае…
Няўжо і ў смерці падман
Ад забыцця чакае?

* * *

Побач, з крыві і плоці,
З дзён, тугою сатканых,
Маё некаханне ходзіць
Па сцежках, іншым стаптаных.

Тут не даўмецца праўды,
Тут чэзнуць у брудзе ружы…
Ружы маёй каханай
Кінуў я сам у лужу.

## Метамарфозы

Метамарфозы, як метафары жыцця, —
Яго аздобу ткуць, плятуць пачварнасць.
Чужую маладыя славяць старасць,
У сэнсе разгубіўшыся быцця.
І студзіць сэрцы лёд наадварот —
У дваццаць сем замест сямі дзесяткаў.
І маладым бывае не да жартаў
У жарце пра апошні паварот,
Пасля якога ўжо няма звароту
На шлях жыцця, адзіны назаўжды,
Які камусьці здоўжыцца ў гады,
Камусьці выльецца ў драбінкі шроту.
Метамарфозы: на Каляды гром
І буйны град улетку на Купалле…
З агню было людское пачынанне,
Цікава, з чым канец пражывём?

* * *

*Ж.*

Вочы твае, вочы!
Мяне не сурочаць.
З пяшчотаю і каханнем
Просяць зноў аб спатканні.
А за вокнамі — ранак сіні.
Мяне клічуць мае пуцявіны,
Цябе — твае клопаты, справы.
Мы жыццём апантаны.
А ў сэрцы каханне плача
Аб тым, што нельга іначай,
Аб тым, што нашы дарогі
Скрыжоўваюцца, як ногі,
Скрыжоўваюцца, як рукі,
Як сэрцаў удары-стукі
Ў імгненні нашага шчасця,
Якое расстаннем плача.
Крыж дарог чатырохбаковы,
Як жа ён па-старому новы
Беспрытульнасцю нашых душаў!..
Без цябе — караблём па сушы
Я плыву ў гавань нашай ночы,
Маякамі — твае мне вочы.

## Чаканне

На час жыцця расцягнута чаканне:
Вясны, зімы, каханых і сяброў…
Дыміцца кавай позняе прызнанне,
Сыходзіць дзень у поцемкі вякоў.
Чакаеш ты, калі ліхтар успыхне,
Несказанае выкрасліць ізноў…
У стылы вечар пад нагамі ліпне
Пацёкшым снегам непатрэбнасць слоў.

* * *

*Ж.*

Нічога не ўзнікае ніадкуль.
Нічога ў нікуды не падзяецца.
Мне хочацца сказаць табе: «Пакуль!» —
Пакуль яшчэ лагодай сэрца б’ецца.

Мяне аўтобус звозіць ад цябе
Не да якой не іншай, не хвалюйся.
Я, можа быць, з’язджаю ад сябе
І знаць не знаю, дзе й калі спынюся.

Але ж пара — і гоніць ход падзей,
Які не мы з табою прыдумлялі,
І трэба рух, каб жыць мне між людзей,
Каб людзі канчаткова не стамлялі.

Нам проста разам месца тут няма,
Але і ў іншым месцы — нам не будзе,
Бо па-асобку весняя пара
Прайшла у нас, а новай Бог не ссудзіць.

Сустрэчы нашы — плата за чаканне,
Калі квіткі ў кішэні й вольны час.
Як смагу, мы спатольваем жаданне,
Пакуль яшчэ гудок не кліча нас.

У кожнага ён свой — не гэта важна,
Не тое нават, што жыццё — вакзал,

Што словы нехта дрэнныя нам скажа,
Важней якраз жыццёвы чамадан.

Ты у яго сваю сям'ю паклала,
А я паклаў імкненне да святла.
І важна, што турмою нам не стала
Свабода ад будзёншчыны і тла.

Рэдка прамаўляючы: «Кахаю!»
І вельмі рэдка бачачы цябе,
Я без цябе не час жыцця губляю —
Вяртаюся каханнем да цябе.

* * *

*Л.*

Гляджу на горад: мой ён і не мой.
Паэт сказаў, што горад без цябе.
Мо нас працяжнік злучыць на адной
Крывой жыцця, але хутчэй што — не.

З усіх гісторый, дзе кахання жарсць
Не горад — свет гатова спапяліць,
Адзіна наша не пісалася для нас,
І мо таму мы засталіся жыць?

І слова не прамоўлена «чужы».
А можа, госць? Зайшоў на аганёк?..
Але на стол збіраць ты не спяшы,
Каб пасля справадзіць мяне ў змрок.

Ты лепш спытай банальна пра жыццё.
А я за гэтым толькі і зайшоў
Па дарозе на сваё сяло
З горада, дзе лёс з табой развёў.

## Да сэрца

Холад, скразнякі душу працялі,
Страх ажыў, разгубленасць знайшла.
Гэтая зіма яшчэ не з намі,
Але прадчуваннямі прыйшла.

Вые вецер, вые і галосіць,
Жалабуе вецер у палёх
І пад дахі шэрыя прыносіць
Нетутэйшую тугу здалёк.

Снег яшчэ не лёг — такая шэрасць
І такая пустка навакол!
Усю бездань іх нічым не змераць,
І таму рыдлёўкай мераць дол…

Ах ты, сэрца, сірата ў Айчыне!
Дзе цяпло і дзе твой Божы дар? —
На марозе двух стагоддзяў стыне
І згарае разам, як Ікар.

* * *

*Ж.*

Я проста сёння лягу спаць раней,
І, можа быць, ты Евай мне прыснішся,
І я, як той з легенды Праметэй,
Скажу: «Маім агнём ты запаліся!»
Ці гэты холад жнівеньскіх начэй,
Ці то жыцця майго хранічны холад
Забраў святло надзей з маіх вачэй
І асудзіў на неспатольны голад?
Бо мы з табой падзелены адной
Прасторай на дваіх у гэтым часе,
І ты часцей у снах жывеш са мной,
Чым пры сустрэчы ў нашым кожным разе...
Скідаюць дрэвы першыя лісты,
Палі ў сваіх мярцвеюць ураджаях,
У снах у восень мяне клічаш ты,
Мая пара кахання залатая.

* * *

Сунуцца постаці брудам…
*Андрэй Гуцаў*

Ад брудных дум, хваробаў і учынкаў
Ратуе жніўня белае святло
І памяць — помню я цябе дзяўчынкай,
Калі мяне і блізка не было.
У згубе дзён, начэй пажадным шэпце,
Ў маім адчаі й болю вострым сэрца
Я ўсё табой жыву на гэтым свеце,
Пакуль жывецца.

Калейдаскоп гадоў мяняе твары
І побач цел чужых — маю прысутнасць.
Ды я недаспадобіўся пачвары —
Ратуе чуйнасць.
А бруду ў нас было заўсёды многа,
Але жывая — прага ачышчэння,
І я табе кажу, як перад Богам,
Чакай здзяйснення…

Цябе я той дзяўчынкай з фота помню,
Табой жыву на гэтым грэшным свеце,
Адлюстраваную у зрэнках тваіх поўню
Я помню ў тым далёкім нашым леце…

* * *

Ты мяне параўнаеш з Ясеніным,
А потым забудзеш зусім,
А мне так не хочацца геніем
Свой век дажываць у глушы.

Сябрую з Міколам Купрэевым,
Кветкі правінцыі* рву.
Поразь з табою старэем мы,
Праводзім вясну і зіму.

А летам радзімай я дыхаю,
Птушак радзімай, бароў, —
Вечна адкрытаю кнігаю
Для тых, хто з самотай прыйшоў.

Мне месца пад сонцам там вызнана
І месца, дзе родных крыжы.
Толькі шкадую, што выгнана
Ты з раю ў маім шалашы.

Таму й не зайздросны лёс генія —
Жыць аднаму у глушы —
Купрэева, зрэшты, й Ясеніна, —
Ты лепш мне пра іх не кажы.

---

* «Кветкі правінцыі» — зборнік вершаў М. Купрэева.

* * *

Дачасна хрызантэмы зацвілі —
Да восені яшчэ дажыць патрэбна
На гэтай сонцам паленай зямлі
Пад грэшным небам.

У горадзе растаў асфальт,
Бракуе піва.
На вуліцах жанчынаў шмат —
Шукаюць дзіва.

Дзівосы тыя прывядуць
У нечый ложак...
Дай Бог шчаслівымі заснуць,
Хто можа.

Хай лета коціцца на схіл —
Цвітуць аб гэтым хрызантэмы.
У спёку восеньскі матыў
Да тэмы...

## Звар'яцелы

На вуліцы, холадам сцятай,
На якую не выгнаць сабак,
У фуфайцы, з каўнерам паднятым,
Стаіць небарака дзівак.

«Чалавеча аджыў, — кажуць, — розум...»
Здзіўленне у сініх вачах,
Вачах на здзіўленне цвярозых, —
Адкуль гэты холад і жах?

У сваю ненагрэтую хату,
Да сябе ён уцёк ад дзяцей,
І тут холад адчуў, як расплату,
Ад даўно ім забытых людзей...

«Небарака, дзівак, звар'яцелы...» —
Колькі словаў ён прыкрых пачуў,
Пакуль назаўжды, акалелы,
Ля чужога парога заснуў.

* * *

Снег дачасна сышоў,
Па-англійску, без развітання.
Чорны колер палёў
Месяц люты пакрыўдзіў убраннем.
Я не ведаю, як апынуўся
Між сёння і ўчора?
Горкі будучы смак —
Як працяг зімой чорнага поля.
Прывітанне без слова «бывай»
Не пачуе другі канец свету.
Сярод ночы адчай
Злым парывам занесены ветру.
Бліскавіцай пачуццяў чужых
Спапяляюцца нервы,
І гарацъ зноў вяртання масты,
Гукі словаў апошніх — пусты
Змест у доме і ў сэрцы…
Снег дачасна сышоў.
Шэрай раніцай
Выбух здзяйснення
Да нуля, на ніпто
Намаганні працягу мне звёў
Падарункам да дня нараджэння.

* * *

Жаваранак — ад «жыць» —
У жыце, траве і небе…
Аб чым гэта ён звініць
І па якой патрэбе?
На гэтай зямлі — праклён:
Не свае ў сваёй хаце людзі
Даніну плоцяць здавён
Невядома якому юдзе.
Жаваранкі ж пяюць
Гімны жыццю спрадвеку…
Калі ж будзе час пачуць
Іх тутэйшаму чалавеку?

* * *

Кропка… Ліловая ноч.
Сну лабірынты. Адсутнасць.
Успаміны позірку воч,
У якіх не схавана сутнасць
Таго, што было і таго, што ёсць…

У поўнай знямозе быт,
Жыццё — недарэчнасць,
І мова яго — санскрыт,
У якім пахавана вечнасць.

Раніца. Мітусня
Тчэ сваю сетку часу.
Губляецца ў нетрах дня
Ліловая ноч паразы.

## Дыялектыка

Калі апускаецца ноч,
Тады абуджаецца чэрнь,
Ды шчасце праходзіць наўзбоч
Перамен.

Калі выбіраюць цара —
Не будзе ён добрым царом.
На звалку даўно ўжо пара
Уладароў.

Калі ў хмары ракетамі б'юць, —
Дзесьці льецца чарнобыльскі дождж,
І атручаныя жывуць —
Для чаго ж?

Калі свету настане канец —
І ўсё з праху пачнецца ізноў,
А нябесны наш Бог-Айцец
Зробіць Еву наноў.

## Каханцы

Ты шчасця не зычыш,
Пасеш ты мой шал.
Маўчаннем ты клічаш,
А ў словах — пажар.
Ды я заблудзіўся
На сцежках жыцця.
Твой вобраз мне сніўся
На крылах крыжа.
У сне здрыгануўся,
Прачнуўся — тут ноч.
Адзін. Ты далёка,
І цемра наўзбоч…
Шэрае ранне.
Гарачы п'ю чай,
Ўзахлёб спасцігаю
Чаканнем адчай.

* * *

Рэштай жыцця — успаміны…
Ты моцная ўнутранай сілай,
Ты моцная прагай кахання
І гэткая свежая ўранні,
Жанчына з усмешкай мадонны!
Навек я табой паланёны
І данясу да магілы
Нашага шчасця ўспаміны.

## Бабіна лета

Якая восень на двары!
Матыль у хаце
Ажыў на сонцы без пары
Лістом на шклянцы,
Раскінуў крылы —
Паляцець не мае сілы.
Дрыжыць нямоглых крылаў медзь,
Як у асіны...
Ідзі сюды, дапамагу!
Бліжэй да сонца
Ляці ды бойся —
Павукі там ткуць красёнцы.

* * *

*Ж.*

І дождж, і хвароба,
І твой тэлефонны званок…
Славаў так многа,
А я ў адзіноце прамок.
Крызіс адолець
Сілаў ужо не стае.
Стрыптыз пачуццёвы
Папера ўвабрала,
Бялеючы вабна
У лямпы настольным святле.
Адлегласць між вершам і мной
Скарачаецца словам,
А кіламетры між мной і табой
Застаюцца дарогай,
Размытай вясеннім даждждом,
Каранцінная маёю хваробай.
— Сумую, кахаю, прыеду, — кажу.
А з тэлефона гудкі
Мае словы бяруць у двукоссе,
І я ўжо не чую —
Чакаеш калі?
Але й з-пад крыжа,
Мне здаецца,
Прыеду у госці.

## Горад

Прывідны, мройны горад
Шпілямі рвецца ў неба,
Чэргамі прагне хлеба.
Яму ўсяго трэба, трэба.
Па скуры — магільны холад,
Дрыжыкі адрачэння.
І ноч — як адно імгненне
Шляху твайго ў бясконцасць.
Тут у пачварным — боскасць,
У выкшталцоным — пошасць,
Жыцця ж — і сны не прарочаць.

* * *

Голас небыцця даходзіць смутным рэхам
З незваротным шумам цягнікоў…

*Андрэй Гуцаў*

Замглёны позірк выстылых вачэй.
Злы вецер рве апошнюю лістоту.
Я ад'язджаю прэч з нашых начэй
У клятую самоту-адзіноту…
І не гадаў, што вернецца у сне,
Як мы з табой стаялі на вакзале.
Каторы год, забыўся ўжо, сплыве,
Колькі жанчын, не помню, праміналі.
А ты мне ўсё махаеш наўздагон
З далёкай той расстайнае скрыжалі,
І я хачу саскочыць на перон,
Як і тады, калі навек стрымалі…
Стары сюжэт скразною адзінотай
Са сноў у яву свой арнамент тчэ,
І вецер рве душу тужлівай нотай —
Бязлюддзе. Ноч. І восень на дварэ.

* * *

Ніводнага слова… Падае снег.
Штодзённа — абнова зямлі на прарэх.
Стабільнасць зімы — гэта рэдкая з’ява.
Не думалі мы, а яна напаткала.
Ніводнага слова. Урачыстая ціш!
Спіць дзесьці у схованах злы вецер-скавыш.
Бязлюддзе ў прасторы… Падае снег.
Ні шчасце, ні гора, ні плач і ні смех
Маўчання не зрушаць… Гармонія сну
Сыпле, цярусіць сівую імглу.

## Дзе?

Тут няма цішыні,
Хоць бывае і пуста, і глуха.
Тут віжуюць віжы,
Тут разруха.
Тут ні волі няма,
Ні свабоды.
Тут паўгода зіма
Й трыста год — для народа.
Тут бывае адліга, капеж,
І — не болей.
Тут жывеш — не жывеш —
Час няволіш.

## Версіфікацыя існасці

Я проста здаю ў архіў
Яшчэ адзін дзень,
Я проста здаю ў архіў
Яшчэ адну ноч,
Я проста жыву
Паміж явай і сном,
Уцякаю ад явы ў сон
І хаваюся ў яве ад сноў.
Рэчаіснасць спрабуе дагнаць,
Існуе амаль побач са мной,
І тады мне хочацца спаць,
І тады мне хочацца сноў.
Ды будзённасць лезе у сны,
Перамешвае яву і сон,
Наводзіць між імі масты,
Дзе я — пасярод мастоў,
Дзе я забываю сябе,
Жыву не сваё жыццё,
Пакуль у натоўпе чужым,
Над безданню, на мяжы,
Ахутае сонны дым, —
І я застаюся жывы:
Здаю у архіў свой дзень,
Здаю у архіў сваю ноч,
У снах праганяю лень
І ад явы крочу наўзбоч.

* * *

Contra spem spero*

Сяду і верш напішу пад абраны эпіграф.
Ён выпаў з кантэксту якойсьці газетнай хлусні,
У белай халоднай прасторы душы маёй
грымнуў, як выбух,
Існасцю той, што жыву я ў жыцця на мяжы.

Я ведаю, што без надзеі на штось спадзяюся,
І новаму сэнсу у словах лацінскіх не быць,
Ды раптам няўзнак для самога сябе схамянуся,
Ясна ўсвядоміўшы шлях, што да скону ляжыць.

Рэкашэтам пачуццяў скрывавіць
натомлены розум,
Рассыплецца храм рамантычны
ў пустэчы душы,
Песню змяркання мне хорам
спяюць вербалозы,
А сэнс увасобіць працяжнік між дат на крыжы.

Так скончыцца шлях, што зрабіўся
таптаннем на месцы,
Метафарай кола ў маім вершаваным радку…
Але абнаўлення надзея жыве напрадвесні,
І гэтай вясной я яшчэ спадзявацца магу.

---

* Без надзеі спадзяюся (*лац.*).

## Габрэйская балада

Лямпа гарыць удзень,
Ноччу лямпа гарыць.
На сцяне мітусіцца цень,
Гаспадар яго хоча жыць.

А за вокнамі ўсё кіпіць,
А за вокнамі ўсё ўверх дном.
Колькі можна святло паліць
І дасюль не згарэць агнём?

Сахара пячэ ў душы.
Звонку — лямпа, і цень, і сон.
Не кранае: «Ты жыць спяшы», —
Бо што тут назваць жыццём?

На чорны сляпы асфальт
Ён ступае, як цень чужы.
З усіх прамінуўшых страт —
Толькі ісціна на крыжы.

Габрэйка прыйшла — як дзень,
А ён помніў: «Ты бі жыдоў!..»
І ён біў іх, рэзаў на пень,
А цяпер вось назад прыйшоў.

Кроў Хрыста на ім, як віна,
Бо Бога ў душы не меў,
Радавы такі сатана
На жыццё сваё захварэў.

А габрэйка была — краса,
Матку Боску пішы з яе!..
Апякала руку каса,
Беглі дрыжыкі па спіне.

Ён нікога так не хацеў,
Ён нікога так не кахаў.
Гэта быў лебядзіны спеў,
Калі д'ябал яму спяваў.

Але... ён і яе забіў...
Ён помніў: «Ты бі жыдоў!..»
Трыццаць год ён святло паліў
І ўсё роўна да іх прыйшоў.

## Імгненні

*

Апошнія яблыкі падаюць,
Аб глебу знянацку бахаюць,
Быццам старыя ахаюць,
У якіх сілу час забраў.

*

Смяецца дзяўчына. Цыгарку смокча.
Гляджу — і шкадоба бярэ,
Што маці яе дубцом не адхвошча,
А больш — што ўжо позна мне.

*

Тэлефонны званок падчас серыялу —
Нарэшце на месцы матулю лаўлю.
А так усё тупае, корміць «зграю»:
Курэй і катоў ды кароўку сваю.

*

Гукі сціхаюць.
Машыны з’язджаюць.
Чорнаю сталлю дрэмле канал.
У гэткую ноч, відаць, паміраюць
Надзеі і мары,
І той, хто іх знаў.

*

Размова пра заробкі ў электрычцы:
— Прыкрыюць Польшчу — махану ў Расію.
І словы б'юць, як проігрыш на пстрычкі,
І сорам — за людзей і за Радзіму.

* * *

Я не помню дэталяў кахання
І сню успаміны пачуццяў.
Толькі сны абрываюцца ўранні
Няўдзячным будзільнікам будняў.

Шарэюць лісты пад нагамі,
Душыць кашаль прастуджаны золак.
Над паднятымі ўверх каўнярамі
Неба вісіць парасонам.

А ў небе — ні зорак, ні сонца.
Толькі шэрасць у восені — тонус.
Паміж ноччу і днём, да бясконца,
Я спяшаюся ў брудны аўтобус.

Праз хвіліну зачыняцца дзверы
Новым днём у бяспамяцтва часу,
І паеду я ў свет гэты шэры
Да якогась наступнага разу…

* * *

І зноў час снегу. Мокра. Беспрытульна.
Імжа. Туман. І вёска без людзей.
Балотныя яліны стогнуць глуха,
Крывымі лапамі схаваўшы дзень…
Крадзецца морак. Мокры снег цяжэе.
У белай жыжы патануў асфальт,
І гэтым белым
белы свет цямнее
Ў адзін вялікі ледзяны падман.

* * *

Цывільны свет Раство Хрыстова славіць.
У Беларусі ж свята — толькі звонку.
Не трэба быць празорцам, каб убачыць,
Як нам усім сціскае вораг глотку.
І ўсё ж надзея дзіўнага народа
Жыве на долю лепшую й збавенне.
То чыста беларуская прырода —
Знаходзіць у надзеі суцяшэнне.
А можа, проста мне так зручна думаць
У час, калі ўладарыць намі здрада.
Калі зло — існа боская ёсць сутнасць,
Тады жыццё — яно і ёсць расплата.

## Сярод іншых

Штодзённы шлак жыцця выкідваю на вецер.
Віхуру дзён маіх, яе гаркавы смак
Цярэбіць думак рой у адзінокі вечар
Пра тое, што гарэць не варта б мне за так.
А заўтра — тое ж зноў. Я выклятаю зданню
Пакрочу, як заўжды, у непатрэбнасць дзён,
Ў якіх няма гадзін, прысвечаных каханню,
Ў якіх спакой душы і блізка не відзён.
Унутраны мой зрок, абвостраны да рэзі,
Высвечвае людзей, падобных на мяне,
І ўжо здаецца мне, што ў д'яблавай імпрэзе
Шлак нашага жыцця у пекла прывядзе.
Ва ўсім у гэтым ёсць абсурдны свой парадак,
Які не можам мы змяніць ці разбурыць, —
Ардою аваднёў загнаны ў багну статак,
Якому — не ўцячы, а з аваднямі жыць…
Але прыходзіць зноў наш адзінокі вечар
І, як пастух кароў, нас гоніць па дамах,
Ды, гледзячы у столь, чакаю я сустрэчы
З тым ненавісным, што палю на шлак.

## Падарожны

Святло здаецца ірэальным,
Зялёнае святло вясны.
І ты з настроем чамаданным —
У нікуды.
Шчабечуць птушкі,
Жоўта ў лужах
Ад навальнічнай пекнаты.
І сёння сум ты свой адужаў
Да дурнаты.
Глядзіш пранізліва, ды збоку
Сябе ты бачыш ад усіх
І ў той жа час навідавоку
Жарсцяў нясуцішных сваіх.
Куды пайсці, куды падацца,
За што пражыць, дзе зарабіць?..
Чым у пытанні заглыбляцца,
Прасцей у мару закахацца
І хату дошкамі забіць.
Але няма ўжо, зрэшты, хаты.
На чамаданах зноў і зноў,
Хімерамі заўжды багаты,
Імкнешся трапіць ты дамоў.

## Інтэр’ер пустэчы

На небе поўня. Лямпа на стале.
Цябе няма. І тут няма мяне.
Было каханне, жарсць і сэрцаў стук,
І слоў цяпло, суладдзе ног і рук.
Пасля — зіма, як галавой аб брук…
І ноч лупатай поўняй смокча кроў,
Святло пустое сее лямпа зноў,
Даўно нам наша свечка не гарыць,
Мы не жывем, а толькі мусім жыць.
І калі нас разгубленасць знайшла,
Не важным стала, ў чым чыя віна.

## У гасцях

Падобна, сабіраецца на дождж.
Апоўдні цёмна ў красавіцкім небе.
І я кажу ізноў сабе: «Ну што ж,
На вуліцу не выйдзеш па патрэбе».

У радасць дождж зямлі,
сасмяглай вельмі,
Хай закрасуе зеленню і кветам.
Я ж прынясу паленняў на бярэмі,
І стане ў хаце ўтульна і нагрэта.

Я госцем тут, на выхадныя дома,
Каб зноў пасля сабрацца ў нікуды,
Дзе праца без адхлання й стома,
Дзе я згубіў жыцця свайго гады…

Прайду па лужах. На прыпынку золка.
І мітусня вясковых ад'язджалаў.
А мне шкада, што зноў не ўстаў на золку —
Пасля дажджу так добра рыба брала б.

## Юр’еў дзень

«Сёння Юр’я,
А бацьку майго звалі Юрко.
Так што, даражэнькая,
Пляшку стаў...»
І маці ставіла.
Я ж ніколі не бачыў дзеда Юрку,
І нават магіла яго не захавалася.
Дзед памёр,
Калі бацьку было дзесяць год,
І ў той год ён у Віхновічах
Пасвіў кароў.
Пра гэта мы ўзгадваем з маці
На Юр’еў дзень.
А бацька каторы ўжо год
Ходзіць у пастухах у пана Бога
І даўно забыўся на сваю пляшку.

## Хрэсніку Ціхану

Ужо падрос «ад бацькавых калёс».
Табе ўжо шэсць,
І час збірацца ў школу.
Гляджу — і быццам гэта я ўваскрос
І першы крок ступаю свой ад дому.
Наперадзе — жыццё. Яго пражыць,
Па меньшай меры, трэба чалавекам.
І гнаць бяду, якая набяжыць,
І паспяваць за гэтым порсткім векам.
Сваё знайсці, свайго не упусціць
І шчасце збудаваць, як дом цагляны.
І да людзей няхай душа ляжыць,
А шлях твой будзе шляхам для абраных.

* * *

Ты не будзеш больш
Гойсаць па горадзе
У пошуках шчасця
Свайго (ці чужога?).
Тузе па каханні ты вымавіў:
«Годзе!»
Бо пошукаў надта замнога.
Мрояй, фантомам
Прайшла твая мара
Па сэрцы, касцях, па душы,
Як дарозе.
Прайшла і растала,
Сканала дзесь на марозе.
Высахла ў промнях вясны.
На сонцы пякучым згарэла
Мінулага лета...
І новая восень заспела
Здзічэлага
Ў страчанай жарсці паэта.

* * *

Гэтым летам не быў у грыбах,
І сок ягад не цвіў на губах.
Гэтым летам я быў у Яе,
Калі справы пускалі мяне.
Гэтай восенню я пасталеў,
Пастарэў, але не памудрэў,
Нешта страціў з таго, што не меў…
Быў вясною багатым пасеў.

## Жыццё і смерць

Самы ў вёсцы стары, пажылы
Памёр на астатку зімы.
Тае снег, і бягуць ручаі,
Свеціць сонца на радасць дзятве.

Гарманічна-спрадвечны працяг…
Ды ад вечнасці хочацца выць,
Калі камень ляжыць на плячах
Тых даўгоў, што няма чым плаціць.

І зайздросціць жывы мерцвяку,
Што па-сутнасці — той жа мярцвяк.
Ён сваё «спадзяюся — жыву»
Ўжо прапіў за астатні пятак…

Свеціць сонца, і дзеда вязуць,
У святле — чорны строй удавы.
За машынаю дзеці ідуць
У вясну па астатках зімы.

* * *

Ах, як вее зімой учарашняе лета!
Чорнай дзюркай зіяе патрачаны час.
На уяўную вось нанізана планета
І ад сонца убок з сабой круціць і нас.

На балотных імшарах гэтай сумнай краіны
Дух народны схаваўся паплакаць з сабой,
А ў яе гарадах гаспадараць «друіды»,
І манкурты ім служаць вялікай гурбой.

З надыходам зімы стала пуста і гола
Для нямногіх, хто помніць вялікасць свайго,
Ад чаго засталіся толькі час і прастора
Ў віртуальным кантэксце быцця усяго.

## Верш для С.

Калі ты мяне укусіла за сэрца —
Было мне салодка-балюча.
А цяпер яно б’ецца, вусцішна б’ецца,
Б’ецца болем калючым.
Колькі ўжо дзён і колькі начэй,
Колькі сутак — не помню —
Становіцца мне ўсё цяжэй і цяжэй
Гаўкаць сабакам на поўню.
Такое заўсёды, ва ўсе часы
Рвала сэрцы, ірве і будзе,
Бо сустрэліся мы дзеля красы,
А выйшлі з табой… на людзі.

## Вочы фантома

Выбіраць паміж злом і злом,
Выбіраць паміж смерцю і смерцю —
Як піць атруту нагбом
І пры гэтым — яшчэ не памерці.
Крывавіць ва ўсмешцы рот,
Калі цісне да долу стома,
І глядзець на пракляты род
Вачамі фантома.

* * *

Я ішоў пад дажджом
У старым палітоне
У чужую кватэру,
Як вечны вакзал.
Я жыву там адзін
У бярлогу-прытоне,
Што часовым прытулкам
Надоўга мне стаў.
Дождж у твар. Ліхтары
Ў гэтым горадзе скралі.
І апоўначы цёмна,
Хоць вока калі.
Бо краіну наніц
Прадалі, абабралі,
А народ не заўважыў —
Зжабрачыў калі?
У старыя мае — па фірме —
Басаножкі
Дождж дабраўся вадой
І захлюпаў наўзрыд.
Я ішоў з вечарыны
І думаў пра ножкі,
Прад якімі упалі б
Парыж і Мадрыд.
Але ў нашых тутэйшых
Палескіх Афінах
У адзіным начным
Задрыпаным шынку

Тыя ножкі купіў
За кактэйль з апельсінам
Той, каму б не падаў я
Ніколі руку.
А яшчэ, думаў я,
Галаву б да тых ножак…
Ды бракуе разумнай
У нас галавы.
І падраўся ушчэнт
Левы мой басаножак,
І набраўся, як гразі,
Я сёння сумы.

* * *

Юная, як красавіцкі дождж,
Прыгожая цнатлівай палкасцю,
Цябе я сустракаў з такою радасцю,
Пасля якой — і не жывуць ўжо больш.

І свет патух. І неба — навальніцаю,
Дзе бліскавіцы — позіркі твае.
Ўсе думкі і пачуцці ўсе мае
Успыхнулі апошняю зарніцаю.

І наступіла ноч. Шчарніла сэрца сажаю.
Ты адышла у край нязбыўных мар.
Мне сонца аднаму — сляпы пякучы шар,
І мала ўсіх жанчын з іх палкасцю лядзяшчаю.

* * *

Ноч гукае голасам дзявочым.
Пацяплела лета у дварах.
І пускаюць хлопцы дым у вочы
Тым, каторым спаць даўно пара.

Але гэтак лічаць толькі мамы,
Бо прыродай вызнана наўпрост:
Калі толькі з неба знікнуць хмары —
Маладое ўсё ідзе у рост.

* * *

Горад прытаіўся за акном,
Як кот на даху,
І безліччу сваіх агнёў
Нагоніць страху
Ў маю душу,
Якую я паслаў на плаху
Вар'яцкага свайго кахання,
Быццам сябе паслаў я на...
А горад сочыць за акном
За мной, як кот на даху,
Сяміметровай вышынёй
І... мала страху.

## Без прысвячэння

Цябе прыснiў я сiратой
Ў дзiцячым доме…
Нажыўся
Не з табой,
Не з той,
Не з гэтай.
Дажыўся…
Розум мой паперкай каляровай
Пагнала ветрам за табой —
Не *той*,
Але такой знаёмай.
У бутафорнай мроi дзён
Мяне няма, а ноччу
У сне я плачу над тваёй
Доляй сiрочай…

## Можна проста...

Можна проста ў акно
Глядзець проста.
Жыць, як бы не было
Твайго веку і росту.

Можна проста забыць,
Прымусіць не помніць,
Што баліць і крычыць
І да долу ломіць.

Бачыць толькі прастор,
А ў ім тую, што бачыць
Цябе бедам наўспор
І не хоча зыначыць.

Можна проста пажыць
І дажыць да пагоста...
Ды душа не ляжыць,
Каб так проста...

* * *

І зноў я збіраюся з дому…
На загуменні камбайн
Ґудзіць і пыліць на дарогу,
Апошні збірае ўраджай.
У хаце заснуў папалудні
Пляменнік, таму — цішыня.
Нядзеля, а дзень быццам будні —
Днюю ў хаце адзін зараз я.

Сорак дзён, як апошняга дзеда,
З дваюрадных, правялі.
Без мяне пахаванне й бяседа
У не вельмі й далёкай радні.
А я ўсё збіраюся з дому
І еду дадому на час
Спелай бульбы, скірдоўкі саломы
І на святы яшчэ іншы раз.

Хоць не госць, а як бы нетутэйшы,
Павяртаю ў абдымкі дарог,
Хоць і ведаю: свет — ён не лепшы
За вось гэты шчарбаты парог.
Хоць і ведаю — гэта не новае,
Як і тое, што выйшлі мы з хат,
Што дарога ляжыць двухбаковая,
Ды па ёй не вярнуцца назад.

Патрапіўшы ў восеньскі вецер,
Пакінуўшы родны абсяг,
Вельмі часта пясчынкай у свеце
Мы знаходзім свой вечны працяг.
І калі я здарожуся — іншы
Будзе з дому збірацца, як я.
Толькі б дом не заняў нехта прышлы,
Толькі б там засталася радня.

* * *

А сёння прыйшлі пабярушкі.
Маці кажа: «Нядобра прасіць у старых».
Яшчэ паўшчувала і з-пад падушкі
Адарвала ад пенсіі дваццаць «касых».

Азіяцкія твары нязнанага роду
(Не прызналіся — хто і адкуль яны ёсць)
Далей пацягнуліся жалабіць вёску,
Ў азіяцкіх разрэзах хаваючы злосць.

Такі абразок. Ды не ставіцца кропка.
Чаму я не маю спагады да іх?
І коле сумнеў, недавер, як іголка, —
Так набрыдзь «працуе» на землях маіх!

* * *

Яшчэ няблізка да Каляд,
А плот — пад снегам напалову,
І маразы ўначы трашчаць,
Згараюць вельмі хутка дровы.
Ужо абрыдзела зіма,
Пачаўшыся раней на месяц,
І сум ад снегу, і туга
Цяплом не свецяць.
Бо холадна сярод людзей —
Іх выстудзіў жабрацтва вецер…
І ўсё трывожней ход падзей
На гэтым свеце.

## Вяртанне зімы

1

Узоры свае вышывае зіма
На вокнах, на дахах дамоў, у палях.
Мяцеліца стогне — адхлання няма,
І пеніцца снег у зямлі на плячах.

Незачыненых весніц аб плот стук і рып,
Воўчае ветру выццё за кутом,
А то — як дзіцяці малога усхліп,
Ці то — кацяня плача здесь пад акном…

Я слухаю гукі, і мроіцца мне,
Што трапіў адзін да чарцей на шабаш,
А можа, учора ўтапіўся ў віне,
І гэта па мне іх хаўтуры і плач?..

2

Не спіцца. Вусцішна. Выходжу на двор.
Як вымерла вёска — ані аганьку!
Адразу трапляю ў шалёны віхор
І ледзь наваколле сваё пазнаю.

Назад не даходжу — бягом і на печ
(Адна яна толькі не здраджвае мне),
На гадзінніку поўнач… Яшчэ суткі з плеч.
Сімфонію ветру даслухваю ў сне…
Усё ж не ўтапіўся я ўчора ў віне.

* * *

Ўжо ад зімовага Міколы
Зусім нядоўга да Каляд,
Хоць снег растаў ва ўсіх разорах
І ў склепе здзейсніў вадаспад.

Капрызы, жарцікі прыроды,
Як у дзяўчыны маладой.
Мы іх трываем год за годам —
Зімою, летам і вясной.

А вось з прыродай чалавечай
(Сваёй, суседа, сябрука)
Не ладзім, і ў размовах-спрэчках
Свярбіць на доказы рука.

Адзін другога мы не любім:
Злуем, кусаем спакваля,
А пры нагодзе б’ем і чубім,
Як можам, зблізку і здаля.

Спрачаемся пра аб’яднанне,
Ды толькі злосць яднае нас.
Стаіць праблема выжывання.
Цячэ пяском нябыту час.

* * *

Схавала жанчыну зіма.
Жанчыны за снегам няма.
За снегам чакае туга,
Злая, як Баба Яга.

Ды я гэту Бабу Ягу
Пакіну чакаць на рагу
Дзвюх вуліц на сотні вятроў,
Сам жа — вярнуся дамоў.

* * *

Жаўцеюць ад ёлкі іголкі
З Каляд на стале.
Хрышчэнне мінулася толькі,
Але не мароз стаіць звонкі —
Туман на дварэ.
Такога раней не было,
Каб зімою — вясна.
Відаць, з балатамі сышло,
Са снегам стагоддзя сплыло
Надвор'е ўчарашняга дня.
Няўтульна і неяк не так
Бачацца вёска і дом.
Лезе трывога за карк:
Хто ў нашым лёсе мастак,
Да чаго дажывём?

* * *

За кратамі нягодаў,
За стратамі сумлення
Замест жыцця — збавення
Чакаем мы й пагоды
На небасхіле дня.

Нічога так не будзе? —
Мы верым і не верым.
Згубілі самі людзі
Ў саміх сябе надзею,
І ўжо да сэрца студзіць
Жыцця завея.

І нігілісты дзеці,
І іх бацькі-банкруты —
Свайго жабрацтва цені,
Сваёй зямлі манкурты.
На хвалях часу — пена
Ўчарашнім ветрам здзьмута…

За кратамі нягодаў,
За стратамі сумлення
Замест жыцця — збавенне
Чакае у вяках…

## Стансы па-нашаму

Я хацеў бы сказаць пра блакітныя вочы,
І пра тое, як трэба маўчаць,
І як піць позна ноччу…
Гэта ведаем мы,
І не хочацца зноў паўтарацца,
Бо для рыфмы «масты»
Я стаміўся ў жыцці напівацца.
Бачу мокры асфальт
І пустую бязлюдную сцежку.
Мне ні Бог, і ні чорт, і ні лёс больш не брат —
Я іду па бязмежжу.
Па гэтым шляху я хацеў бы дайсці да Радзімы
Праз сагнутыя спіны, праз тое,
Што страцілі ўсе мы.
Крумкачы, вараннё
Апантана крычаць на нягоду,
І чарнее жыццё
Сапраўды ўжо — ніякага роду.
З табой па Парыжы прайсці —
І ў сне не прысніцца,
А сюды парыжан запрасіць —
Лепш у Шчары ўтапіцца.
За каго сорам мой —
За сябе, за цябе, за суседа?..
Ды за ўсіх грамадой,
Што «пасмешышча мы на паўсвету».
Ды і з гэтым звыкаемся жыць,
І драбнеюць жаданні.

Можна кніжку чытаць
Альбо спірт ноччу піць —
Упіцца, згубіцца дазвання:
Хто ты ёсць, дзе твой род,
Што працуеш, як вол,
А не маеш…
Толькі раніцай кроў
Адрыгнеш на казённую кафлю
Ды на працу ізноў заспяшыш,
Як юнак на спатканне.
Звычка, страх рабскі, боль,
Што заўгодна, адно каб —
Задарам…
А цяпер я ляжу і плюю проста ў столь,
І пляўкі віснуць проста над тварам.
Што тут горш, што тут лепш?
Толькі вырасся я быць таварам.
Заплаці мне спярша, а пасля ужо еш,
Ды глядзі — званітуе пажарам.

* * *

*Л.*

Перламутравы холад снягоў,
Туманы зімовых дарог
Забралі цяпло маіх слоў,
Што сказаць я табе не змог.

Палёг пад снегам быльнёг,
Паламаўся трыснёг ля ракі,
Той бадзячы сабака здох,
Што нюхаў твае сляды.

Ты ж пра лета заводзіш зноў.
Толькі памяць мяне не кране.
Я згарэў, на нішто сышоў,
Ты пастаў лепш свечку па мне.

Не кляні, не малі цяпла,
Не шукай нічыёй віны,
Зразумей: мяне больш няма —
Твайго лета сярод зімы.

## Гістарычнае

Нешта пра нашы асновы
Просіцца з нетраў свядомасці,
Хоць звонку ўсё спраўна —
Жывём па-старому
На рысцы апошняй прыстойнасці.
Доўга, бясконца, вечна
Цягнуцца так можа —
Нам хопіць трываласці.
Бо ў генах закладзены,
Як панацэя,
Код выжывання
Ва ўмавах нялюдскасці.
Толькі з надзеяй,
Апошняй і смелай,
Наш позірк наперад
Туман прабівае…
А што ён хавае?
Ўсё тое ж балота,
Дрыгву, што ад роду
Радзімай завецца…
Радзімічам п’ецца,
І кроў крывічоў,
Сапсаванай прыроды,
На балотных абшарах
Не робіць пагоды…
Псы і шакалы
Да нас паўцякалі
Адтуль, з-за балот,
Пасвіць наш род.

* * *

Плача жанчына ў трубку,
Шчасця мне не жадае.
Маці ў вёсцы напаліць грубку
Крыху больш, бо мяне чакае.

Зіма свой прынесла холад
Так рана — у лістападзе.
Хутка птушкі адчулі холад,
Змерз яблык зімовы ў садзе.

І сам я ўвесь змерз з дарогі.
Мяне цёплая печ чакае,
Шарсцяныя шкарпэткі на ногі,
А пра шчасце — маці спытае.

## Пра яе, час і нас

«Ноч запальнічкамі трамваяў
Трывожна крэсліць небасхіл...»*
Прайшлі гады, і дагарае
Начэй палын.

І каркаюць трывожна ноччу
Тут груганы,
І сябра ўжо са шляху збочыў
Ў абдым труны.

Усё паўторыцца, няйначай,
Як і тады.
Ночы разменены. І здачы —
Лічыць гады...

Шматкроп'і, як цвікі у вечку
Жыцця-труны...
Перад прыгожаю авечкай
Мы — бараны.

* Радкі з верша Міхася Скоблы.

## Вершы

Вершы, як апалыя ранеты,
Як агонь з душы апёкам.
Мы распрануты, раздзеты.
Знікла ўсё, што нас лучыла,
Засталіся толькі вершы,
як лучына,
Святлом цмяным у цямрэчы
нежыцця…
Вершы, як апалыя ранеты,
Як агонь з душы апёкам.

## Зорная тэма

Плот зялёны на зімовым фоне,
І палоскай чорнаю асфальт…
У вялікай скрухі у палоне
На сябе збіраю кампрамат.

Рух застыў. І думка у прыгоне
Гэтай вечнай, мёртвай цішыні.
Свецяць зоркі на нябесным троне,
У дамах патушаны агні.

Ад маіх няправедных учынкаў,
Ад маёй злачыннай дабрыні
Дзверы тых зачынены будынкаў,
Дзе ў мароз прыняць мяне маглі.

Я цяпер на зорным небасхіле
Прыглядаю месца для сябе
На той час, як свет мяне пакіне,
Як сваю я хату на сяле.

Гэтак проста — выйсці Млечным Шляхам,
Калі ўсе ўжо сходжаны шляхі,
Адпусціць душу у неба птахам,
На зямлі пажыўшы ад душы.

# Фрагменты памерлых мар
*Паэма*

## Хвароба

Што ж мяне так калоціць?
Залезці б на печ!
У жыццёвым балоце
Рукі да плеч.
Найперш берагчы ад бруду,
Не запэцкаць душу
Наказваў Гасподзь Бог люду,
А люд: «Саграшу!»
Што ж мяне так калоціць?
Колькі я там грашыў:
Жонку чужую зводзіў,
Многа гарэлкі піў,
Але ж не маўчаў за праўду,
Не прагнуў для жывата, —
А на жыццёвай градцы
Вырасла лебяда.
— Не прыбядняйся, — кажуць, —
Не наракай на лёс…
Душу на вяроўкі вяжуць
Стома і злосць.
Бо ўсё, што і сэнс, і сілы, —
Як галавой аб брук,
Як смех ля тваёй магілы,
Як крыўднае: «Прэч, байструк!»
А на чырвоным месцы,
Скуль Божы Памазанік паў,

Баль верхаводзяць чэрці,
І д’ябал ім богам стаў…
Шкодзяць жыццю фрагменты
Успамінаў памерлых мар.

## Герой

Не п’ецца чай на адзіноце.
Кружэлку нэндзы ціш заводзіць.
Гадзіннік цікае адчайна:
— О, панна, панна, панна, панна!..
Герой, злым духам апантаны,
Пайшоў і не вярнуўся з ванны.
Яна знайшла яго ў «купелі»
Ў той дзень, калі пабрацца мелі,
І абурылася падману…
Вада ўжо выбеліла рану,
Душа варылася ў геене,
Жывыя ж клопату займелі.
— З-за бабы?.. Дурань! —
На памінках дзядзькі судзілі сірацінку,
А сябар, што пазычыў грошы,
Сядзеў, да смерці агарошан,
І кляў той час, як зараблялі
Яны з нябожчыкам даляры.
Той дараваў, каму быў вінен,
Даўгі, пачуцці, думкі, сілы…

Калі жывеш на адзіноце —
Жанчына Вечная прыходзіць,
Касою боль і жах адводзіць…

Ў касцяным яе агародзе
Спакойна пры любой пагодзе.

## Гераіня

«Паршывец, слізняк смярдзючы!
Чаму ж ты не здох маленькім,
Не звёўся твой род падлючы,
Яшчэ да мяне, навекі!..» —
Гераіня сваю жалобу
У маналог уклала.
Не слала пракляццяў Богу,
Хрысту нявестай не стала.
Апакаліпсіс духу
Кляцьбою свайго абранца
Глыбінна акрэсліў скруху
Жанчыны, сябра, дарадцы…

Гісторыю іх кахання,
Назусім апусціўшы дужкі,
Без жалю і шкадавання
Пераказвалі вусны шлюшкі,
А ў вачах рэстаранным чадам
Спела яе жаданне,
Словы падалі градам,
Слухачу — пакаранне.
Ушчэнт сапсаваў я вечар.
У руцэ стала цёплай шклянка,
Хоць настрой ні каньяк не лечыць,
Ні без праблем каханка.

Не знаю, з якой прычыны
Не перастаў я думаць
Над учынкам таго мужчыны,
Што выкруціў смерцю кукіш…

## Гісторыя

Зацішша пасля бурных дэманстрацый
Пратэсту супраць існасці сваёй —
Час падрыхтоўкі новых карных акцый,
Каб існасць ураўняць з зямлёй.
Хто здраднік — зробіцца героем
(Бо без героя ў нас — ніяк!),
Хто патрыёт — змяшаюць з гноем,
Што ўдосталь робіць чынны зад.
Збіццё, разгон, тэрор дзяржавы,
Баль чэрні, баль у час чумы.
Хто моцны дурасцю — той правы,
Яму ўсе дадзены правы…

Грыміць дзяржаўная машына:
«Расце народны дабрабыт!..»
І пагадзіцца ўсе павінны,
Хто не нацдэм, гандляр ці жыд.
Чым ні гісторыя кахання
Народа й лідэраў яго?
Тут жарсць, загадкавасць,
Тут тайна
Сэнсу здаровага ўсяго.

## Лагоднасць

Няхай знаходзіць, хто шукае,
Хто мае — не губляе хай!
Мяне ж няхай не напаткае
Ўзаемнабрыдкі гам і хай.
Тых пошукаў на расцяробе
Грамадства постсавецкіх мас,
Бо як няма цара у лобе,
То дрэнным будзе ўсякі час…

Каляды пахнуць адзінотай.
Зацішша і ў маёй душы,
Не спешчанай чужой пяшчотай
За барышы.
Не выпаў снег. Туман ахутаў
Зямлю, стамлёную ад нас.
Здаецца, трапіў я на хутар
За сто гадоў у прошлы час.

## Эпілог

Адказам сталі на пытанне
(Наконт таго — калоціць што?)
Фрагменты, вытрымкі жыцця,
Даўно забытыя дазвання,
Як показка пра латыша*.
Усе ў святым юнацтве марац,
Ды дзякуй Богу, што не ўсіх

* Як у латыша — толькі сам ды душа.

Аскепкі мар у сэрца раняць
І робяць мёртвымі жывых.
А для баласта і для друзу
Таксама здатны ўсякі час,
Аб іх я набіваў па гузу
Ў сутычках
На душу не раз.
Таму, бывае, і калоціць,
Але пакуль цяпліцца печ —
Не застануся я ў балоце
І злыбяду справаджу прэч.

*Зіма 1997/98 гг.*

## Змест

**Грамадскае аб'яднанне «Воля да развіцця»**
(г. Слонім)

старшыня праўлення Міхась ВАРАНЕЦ
а/с 25, 231800, г. Слонім-2
Тэл. (01562) 4-22-14
e-mail **varanets@mail.ru**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Кананові́ч** Мікалай Мікалаевіч

**І доўжыцца ноч...**
*Вершы*

Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Карэктар *Н. Аляксеева*
Камп'ютэрны набор *Н. Шыдлоўская*
Вёрстка *Л. Ваўчок, Н. Шыдлоўская*
Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*

Падпісана да друку 28.10.2003 г. Фармат 70х90 $^1/_{32}$
Папера афсетная. Ум. друк. 2,73 арк. Ул.-выд. 3,1 арк.
Наклад 500 паас. Зак. 2462.

МГА «Беларускі кнігазбор».
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.
Тэл./факс (017) 220-70-27.
Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.2002 г.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні УП «Ходр» БелТІЗ.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.
ЛП № 91 ад 15.08.2002 г.